Выходзіць з 20 снежня 1945 года

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 68 (5399)
Субота, 8 чэрвеня 2002 года

Званок з рэдакцыі

## Увага, ідуць экзамены...

**Гомель. Сярэдняя школа №44.**

95 дзяўчат і юнакоў, выпускнікоў старшых класаў, трымаюць іспыты перад строгай, але добразычлівай экзаменацыйнай камісіяй.

Як паведаміў дырэктар школы Сяргей Бергункер, асаблівае хваляванне, творчы ўздым пануюць сярод вучняў профільнага класа - журналісцкага.

Пераважная большасць выпускнікоў, якія займаліся ў ім (іх 19), на думку Сяргея Дзмітрыевіча, будзе паступаць у вядучую мясцовую ВНУ - Гомельскі дзяржаўны універсітэт імя Ф.Скарыны, на аддзяленне журналістыкі

Паспяхова здадзены ўжо два экзамены.

**Смалявіцкі раён Мінскай вобласці, Верхменская сярэдняя школа.**

Дзмітрый Шпакоўскі і Аляксей Калесніковіч - выпускнікі школы. Яны ўдзельнічалі ў цэнтралізаваным тэсціраванні па матэматыцы і атрымалі станоўчыя адзнакі. Цяпер юнакі паспяхова здаюць выпускныя экзамены.

Гэта можна сказаць і пра іх сяброў (сёлета школа налічвае толькі восем выпускнікоў).

Дырэктар школы Святлана Сліжанкова паведаміла і такую вестку: у падрыхтоўчы клас прынята 15 дзяўчынак і хлопчыкаў.

- Экзамены экзаменамі, - заўважыла Святлана Паўлаўна, - а школьнае жыццё па-ранейшаму змястоўнае.

Навучальная ўстанова справамі пацвярджае свой экалагічны ўхіл. 20 дзяўчынак і хлопчыкаў праводзяць сёння час у экалагічным летніку. Намеснік дырэктара школы Аксана Ліпніцкая ўзначаліла экскурсію юных эколагаў у Бярэзінскі запаведнік.

Вучні-эколагі могуць пахваліцца і тым, што прынялі ўдзел у пасадцы 15 гектараў лесу, заклалі парк, у якім хараша расце дубок, пасаджаны падчас наведання школы Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

**Гродзенскі раён, Верцялішкаўская сярэдняя школа.**

Зноў патрапіў на дырэктара школы. Кацярына Сыантовіч расказала, што выпускнікі, якія здаюць экзамены за 11-ы клас (42 вучні) і базавую школу (74), цешаць належнай падрыхтоўкай.

Кацярына Антонаўна падзялілася з вашым карэспандэнтам і такой інфармацыяй, прасіла давесці яе да ведама падпісчыкаў і чытачоў "Настаўніцкай газеты":

- Васьмікласнік Дзяніс Вітман і дзевяцікласнік Барыс Герасімаў нядаўна былі першымі ў краіне ў спаборніцтве па коннаму спорту. Барыс займеў права ўдзельнічаць па гэтым відзе спорту на першынстве Еўропы.

**Нясвіж. Сярэдняя школа №4.**

Тэлефонную трубку падняў дырэктар школы Міхаіл Мацуль. Міхаіл Міхайлавіч інтуітыўна прадугадаў сутнасць пытання і адразу выдаў статыстыку:

- Кожны чацвёрты выпускнік школ Нясвіжчыны сёлета прыпадае на нашу, 4-ю, школу: экзамены здаюць 106 старшакласнікаў і 128 дзевяцікласнікаў.

Звяртае ўвагу ваенна-патрыятычны клас. У Ваеннай акадэміі займаецца 40 выпускнікоў школы.

**Докшыцы Віцебскай вобласці.**

Намеснік загадчыка аддзела адукацыі райвыканкама Ванда Сяліцкая паведаміла:

- Пачатку экзаменацыйнага сезона папярэднічала зладжаная аддзелам адукацыі спецыяльная нарада дырэктараў базавых (11), сярэдніх (16) школ. Гэта паспрыяла таму, што экзамены праходзяць асабліва арганізавана - як у тэхнічным, так і ў метадычным планах.

За 9 клас здаюць экзамены 536 вучняў, за 11 - 288.

Паспяховы пачатак усяляе спадзеў і на такі ж зыход іспытаў.

**Жлобінскі раён, Малевіцкая сярэдняя школа.**

Выпускнікі школы паспяхова справіліся з чарговым экзаменам - па геаграфіі.

Як паведаміў у рэдакцыю наш няштатны карэспандэнт, супрацоўнік аддзела адукацыі Жлобінскага райвыканкама Аляксандр Іванькоў, дзяўчаты і юнакі паказалі ўпаўне трывалыя веды па азначанай дысцыпліне.

Яны, падкрэсліў Аляксандр Аляксеевіч, прадэманстравалі як засвоены праграмны матэрыял, так і веды па геаграфіі роднага краю.

**Уладзімір НОВІК.**



Адзначыць сваё 25-годдзе ў наступным годзе рыхтуецца дзіцячы ўзорны ансамбль танца "Расінка" Дома культуры Брэсцкага электрамеханічнага завода. Ансамбль - пастаянны ўдзельнік розных фальклорных фестываляў у Беларусі, Польшчы, Германіі, з'яўляецца дыпламантам пятага міжнароднага фальклорнага фестывалю ў Любліне, лаўрэатам фестывалю танца ў Маскве, лаўрэатам першага дзіцячага фестывалю "Усе мы родам з дзяцінства".

НА ЗДЫМКУ: салістка ансамбля Маргарыта Счасная вучыцца ў 7 класе сярэдняй школы №20 Брэста, а танцуе ў калектыве ўжо дзевяты год.

**Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА.**

## Выдзелены сродкі на падтрымку культуры і мастацтва

Кіраўнік дзяржавы зацвердзіў рашэнне савета фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва аб выдзяленні са сродкаў фонду 238,3 млн. рублёў на рэалізацыю творчых праектаў і мастацкіх акцый, значная частка якіх звязана са знамянальнымі падзеямі ў культурным жыцці краіны.

Гэтыя сродкі будуць накіраваны на правядзенне мерапрыемстваў, прымеркаваных да святкавання 120-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа і 130-годдзя з дня нараджэння В.К.Бялыніцкага-Бірулі, пастаноўку новых спектакляў у драматычных тэатрах рэспублікі, набыццё музычных інструментаў і апаратуры для творчых калектываў і навучальных устаноў краіны, а таксама на аказанне матэрыяльнай дапамогі дзеячам культуры.

Дзейнасць фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва з'яўляецца адным з накірункаў аказання матэнакіраванай дзяржаўнай падтрымкі развіццю нацыянальнай культуры.

## Зацверджаны новы склад савета па падтрымцы таленавітай моладзі

Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка сваім Указам ад 3 чэрвеня зацвердзіў новы склад савета спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. У яго ўвайшлі лепшыя прадстаўнікі творчай і педагагічнай інтэлігенцыі краіны, вядомыя дзеячы культуры і мастацтва, якія ўносяць значны ўклад у падрыхтоўку творчай моладзі, адказныя работнікі органаў дзяржаўнай улады і кіравання, прадстаўнікі грамадскіх аб'яднанняў.

Старшынёй савета назначана Наталля Пятроўна Аўдзеева - намеснік старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу.

Як падкрэслена ў каментарыі прэс-службы Прэзідэнта, спецыяльны фонд Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі створаны кіраўніком дзяржавы ў 1995 годзе ў мэтах фінансавання мерапрыемстваў, накіраваных на стварэнне ўмоў для пошуку, станаўлення і творчага развіцця юных талентаў. Фонд аказвае адрасную падтрымку найбольш таленавітым прадстаўнікам творчай моладзі краіны, фінансуе важнейшыя культурныя праграмы і праекты, садзейнічае развіццю мастацкай адукацыі і эстэтычнага выхавання падрастаючага пакалення.

**Прэс-служба Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

Абітурыент-2002

## Рыхтаваць эканамістаў у аграрнай сферы

***Сёлета эканамічны факультэт Гродзенскага дзяржаўнага аграрнага універсітэта пачынае прыём абітурыентаў на дзве новыя спецыяльнасці: "Фінансы і крэдыт", а таксама "Бухгалтарскі ўлік, аналіз і аўдыт".***

Сярод ВНУ Гродзеншчыны па такіх спецыяльнасцях да гэтае пары рыхтаваў толькі Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Я.Купалы. Таму іх адкрыццё ў ГДАУ можна расцэньваць як значны крок насустрач моладзі, якая б хацела вучыцца па гэтых напрамках. Немалаважны і той факт, што універсітэт у адпаведнасці са сваім профілем будзе рыхтаваць спецыялістаў у галіне фінансаў і крэдыту; бухгалтарскага ўліку, аналізу і аўдыту для сельскагаспадарчых прадпрыемстваў.

План прыёму на спецыяльнасць "Фінансы і крэдыт" невялікі - 12 чалавек, а на спецыяльнасць "Бухгалтарскі ўлік, аналіз і аўдыт" большы - 25 чалавек. Гэта на навучанне за кошт дзяржаўнага бюджэту. Лічбы плана прыёма на платнае аддзяленне пакуль не вызначаны. Як паведамілі ў прыёмнай камісіі ГДАУ, з размяшчэннем дадатковай колькасці студэнтаў праблем не будзе: у гэтым годзе ва універсітэце адкрыўся новы вучэбны корпус.

**Іна НІКІЦЕНКА.**

Прэс-канферэнцыі

## Беларусь - краіна транзіту наркотыкаў

***4 чэрвеня ў Міжнародным цэнтры інтэграцыйнай інфармацыі Грамадскага прэс-цэнтра Дома прэсы адбылася прэс-канферэнцыя начальніка Упраўлення па незаконным абароце наркотыкаў і норавах МУС А.А.Салдаценкі "Міждзяржаўнае і міжведамаснае супрацоўніцтва ў рашэнні праблем распаўсюджвання наркотыкаў".***

За апошнія 10 гадоў колькасць наркаманаў у рэспубліцы ўзрасла ў 8,5 раза. 2 працэнты ад іх агульнай колькасці складаюць падлеткі.

Аналіз выяўленых злачынстваў, звязаных з незаконным абаротам наркотыкаў за чатыры месяцы бягучага года, а таксама колькасць асоб, пастаўленых на ўлік за ўжыванне наркотыкаў, колькасць канфіскаваных наркатычных прэпаратаў сведчаць аб тым, што тэндэнцыя да распаўсюджвання ўжывання наркотыкаў у рэспубліцы захоўваецца. Паранейшаму найбольш праблемнымі застаюцца абласныя цэнтры і буйныя гарады, дзе выяўляецца найбольшая колькасць як асоб, якія ўжываюць наркотыкі, так і выяўленых злачынстваў па лініі незаконнага абароту наркотыкаў. Рост такіх злачынстваў адбыўся ва ўсіх рэгіёнах краіны без выключэння. Найбольш высокія тэмпы назіраюцца ў Гомельскай вобласці і ў Мінску. 61 працэнт асоб, якія здзяйсняюць такія злачынствы, складае моладзь, з іх 24 працэнты - жанчыны.

Доўгі час асноўным наркотыкам на Беларусі быў опій. У апошнія гады рэзка павялічылася паступленне ў рэспубліку і ўжыванне амфетамінаў, гераіну і метадону. Прычым наркадылеры пастаянна зніжаюць цэны на іх. Так, да прыкладу, адзін грам гераіну на вуліцы сёння каштуе каля 50 долараў - гэта ў 2 разы ніжэй, чым яшчэ пару гадоў назад. Асноўнымі пастаўшчыкамі гераіну з'яўляюцца Афганістан і краіны Сярэдняй Азіі. Макавая саломка паступае ў рэспубліку ў асноўным з Украіны, сінтэтычныя наркотыкі, амфетаміны - з Польшчы, Расіі, Літвы. Асноўнымі распаўсюджвальнікамі метадону з'яўляюцца цыганы. Наркотыкі з-за межаў рэспублікі паступаюць у асноўным чыгуначным (60 працэнтаў) і аўтамабільным (каля 30 працэнтаў) транспартам. У Брэсцкай вобласці ёсць пешыя пераходы, па якіх макавая саломка дастаўляецца з тэрыторыі Украіны. Наогул, геаграфічнае становішча Беларусі стварае добрыя ўмовы для выкарыстання нашай рэспублікі ў якасці транзітнага калідора для перапраўкі наркотыкаў з Еўропы ці ў Еўропу. Зыходзячы з гэтага сусветная супольнасць у бліжэйшы час абяцае аказаць нам тэхнічную падтрымку, якая дапаможа паставіць заслон транзіту наркотыкаў. У Маскве створаны адзіны банк даных аб асобах, прыналежных да распаўсюджвання наркотыкаў на тэрыторыі СНД. Наша краіна прымае актыўны ўдзел у папаўненні гэтага банка новымі звесткамі і, адпаведна, карыстаецца яго інфармацыяй. Прэзідэнтам краіны зараз разглядаецца падрыхтаваны Урадам праект Закона аб наркотыках і псіхатропных рэчывах, які, на думку спецыялістаў, пасля яго прыняцця дапаможа весці больш дзейсную барацьбу з наркатызацыяй Беларусі.

**Святлана СУБОЦІНА.**

> ***Только тот учитель и будет действовать плодотворно на всю массу учеников, который сам силен в науке, ею обладает и ее любит.***
>
> **Д. Менделеев.**

Весткі

## Новыя тэхналогіі прыйдуць і ў бібліятэкі

***Напрыканцы мая ў Полацкім дзяржаўным універсітэце (ПДУ) прайшоў міжнародны семінар "Менеджмент універсітэцкай бібліятэкі". Арганізатарамі семінара выступілі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Беларуская бібліятэчная асацыяцыя, фундаментальная бібліятэка Беларускага дзяржаўнага універсітэта і бібліятэка Полацкага дзяржаўнага універсітэта.***

Ролю бібліятэк у вучэбным працэсе, паводле слоў арганізатараў семінара, пераацаніць цяжка. Бібліятэкі ВНУ сёння выконваюць не толькі адукацыйную функцыю - яны закліканы таксама выхоўваць маладое пакаленне. Ва ўмовах рэфармавання вышэйшай школы патрабуе змен і работа універсітэцкіх бібліятэк. Вызначыць шляхі далейшага развіцця бібліятэчнай сістэмы вышэйшых навучальных устаноў прыехалі дырэктары бібліятэк ВНУ як нашай краіны, так і з-за мяжы.

Вялікую ўвагу ўдзельнікі семінара ўдзялілі выкарыстанню Інтэрнет-тэхналогій у адукацыі і навуцы. Як адзначыла Аксана Валодзіна, бібліятэка ПДУ актыўна развіваецца ў гэтым напрамку. На сённяшні дзень бібліятэчная сістэма універсітэта практычна поўнасцю аўтаматызавана. У бліжэйшы час у ВНУ плануецца адкрыць Інтэрнет-цэнтр, які стане істотным дапаўненнем у інфарматызацыі вучэбнага працэсу і развіцця бібліятэчнай сістэмы ВНУ ў цэлым.

Адной з удзельніц семінара была і прэзідэнт амерыканскай бібліятэчнай асацыяцыі Нэнсі Краніч. Яе прыезд у нашу краіну стаў магчымы дзякуючы падтрымцы амерыканскага пасольства ў Беларусі. Абедзве краіны зацікаўлены ў супрацоўніцтве, паколькі гэта дае магчымасць абменьвацца інфармацыяй. Мэта прыезду Нэнсі Краніч - расказаць пра перспектывы развіцця бібліятэк, пра сучасныя лічбавыя тэхналогіі, увядзенне якіх дазволіла не толькі палепшыць і аблегчыць работу бібліятэк, але і аб'яднаць сусветныя інфармацыйныя рэсурсы, нягледзячы на межы. Яна таксама адзначыла, што многія кансультацыйныя матэрыялы пра асаблівасці работы бібліятэк перакладзены на рускую мову і размешчаны ў сусветнай камп'ютэрнай сетцы - такім чынам нашы бібліятэкі могуць атрымаць да іх доступ.

Падобныя семінары праходзяць штогод у розных ВНУ Беларусі. Напрыканцы прысутныя падвялі вынікі работы, распрацавалі праекты для далейшага развіцця бібліятэчнай справы і пазнаёміліся з гістарычнымі і культурнымі мясцінамі старажытнага Полацка.

**Вольга МІНЯНКОВА.**

Полацк.

## Лепшая пярвічка

***Па выніках раённага агляду-конкурсу пярвічных арганізацый грамадскага аб'яднання "Беларускі патрыятычны саюз моладзі", першае месца прысуджана пярвічцы Даброгашчанскай сярэдняй школы.***

Дзякуючы падтрымцы адміністрацыі школы гэтая маладзёжная арганізацыя карыстаецца заслужаным аўтарытэтам, з ёй лічацца, на яе раўняюцца ўсе астатнія школьнікі. Менавіта члены БПСМ сталі ініцыятарамі працоўнага дэсанта "Памяць", які ўключаў добраўпарадкаванне воінскіх пахаванняў на тэрыторыі Даброгашчы, а таксама дапамогу сем'ям удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, расчыстку тэрыторыі каля іх жылых дамоў.

Члены БПСМ выступілі ініцыятарамі спаборніцтва па збору металалому і макулатуры паміж класамі і асобнымі здатчыкамі. Па прапанове членаў пярвічнай маладзёжнай арганізацыі ў сельскім Доме культуры быў дадзены вялікі канцэрт мастацкай самадзейнасці.

Цяпер члены БПСМ рыхтуюцца прыняць удзел у летнім аздараўленні вучняў. Так, Мікалай Штукар і Сяргей Крук будуць працаваць памочнікамі выхавальніка ў школьным аздараўленчым летніку.

## Не мялее "Крынічка" ў Даброгашчы

***Найбольш папулярным сярод даброгашчанскіх школьнікаў з'яўляецца паэтычны гурток "Крынічка". Ім кіруе педагог Паліна Іванаўна Емяльяненка. Яна захапіла паэзіяй вельмі многіх юных даброгашчанцаў.***

Некаторыя робяць свае першыя крокі. Нядаўна ў раённай газеце "Новы дзень" быў надрукаваны верш Алены Рогач. Вершы ўдзельніц гуртка Таццяны Дубавец і Вольгі Маркаўцавай чакаюць публікацыі ў рэспубліканскім друку. Частка работ гурткоўцаў паслана на рэспубліканскі конкурс.

Цяпер удзельнікі "Крынічкі" працуюць над стварэннем вершаванай кампазіцыі, прысвечанай 120-годдзю з дня нараджэння беларускіх песняроў Янкі Купалы і Якуба Коласа.

## Вітаміны - круглы год

***Дагэтуль у даброгашчанскім школьным гароднінасховішчы ёсць запасы яблычнага варэння, сухафруктаў, кансервацый, бульбы, буракоў, фасолі, капусты.***

На прышкольным участку парадавалі сваімі дружнымі ўсходамі сталовыя буракі, капуста, бульба, фасоля. Добра прыняліся і пасаджаныя сёлета 44 кусты чорных парэчак, багаты ўраджай можна чакаць і ад яблынь са школьнага саду.

Паводле слоў дырэктара школы Ларысы Рыгораўны Аўсяннікавай, уласныя прадукты дапамагаюць школе знізіць кошт харчавання вучняў, зрабіць яго больш каларыйным і разнастайным. Дзякуючы ўмелым рукам і высокаму кулінарнаму майстэрству школьнага кухара абеды ў сталоўцы заўсёды смачныя.

**Аляксандр ІВАНЬКОЎ.**

Жлобін.

З дакладных крыніц

# Няма ў выхавання выхаднога

## На пытанні нашага карэспандэнта адказвае намеснік Міністра адукацыі Таццяна Мікалаеўна Кавалёва

**- Відаць, не перабольшу, калі скажу, што тэмай дня для кожнага педагагічнага калектыву сёння з'яўляецца пераход навучальнай установы на пяцідзённы вучэбны тыдзень і арганізацыя выхаваўчай работы ў суботу. Уяўляеце, як чакаюць кіраўнікі і настаўнікі менавіта вашых меркаванняў на гэты конт? Але аб гэтым крыху пазней.**

**Дазволю ўсё ж пачаць нашу размову пытаннем аб развіцці выхаваўчай сістэмы ўвогуле. Якой бачыцца для вас перспектыва выхаваўчага працэсу?**

- Першым і, бадай, самым галоўным кірункам выхаваўчай работы на бліжэйшую перспектыву я б назвала ўдасканаленне ўкладу школьнага жыцця ў адпаведнасці з місіяй навучальнай установы.

У значнасці і неабходнасці гэтага працэсу пераканаюць кожнага настаўніка сацыялагічныя даследаванні, праведзеныя навукова-даследчым інстытутам праблем крыміналогіі, крыміналістыкі і судовай экспертызы, у тым ліку і сярод вучняў 9-10 класаў. Даследаванні выявілі, што ў сценах школы шырокае распаўсюджанне маюць такія з'явы, як брыдкаслоўе, тытунекурэнне, распіццё алкагольных напояў на дыскатэках, вярбальнае і фізічнае насілле.

Правілам стала і зневажанне адзін аднаго - аб гэтым сведчаць 69,8 працэнта апытаных старшакласнікаў; 25,9 працэнта - гавораць аб тым, што ў школе мае месца збіванне слабых; 9,8 працэнта кажуць пра вымаганне грошай і рэчаў, 3,4 працэнта падлеткаў сведчаць аб распаўсюджванні ў школе наркотыкаў.

Такім чынам, па ацэнцы апытаных, гвалтоўных дзеянняў у школе не менш, чым на вуліцы. А гэта ўжо вельмі сур'ёзны сімптом. Атрымліваецца, што бяспечнасць школьнікаў унутры навучальнай установы і на вуліцы - практычна аднолькавая. І гэта - пры наяўнасці ў школе цэлай арміі выхавацеляў, педагогаў. Ці ж не нонсенс, калі ў школе і на вуліцы - адны і тыя ж законы?!

Таму тэрмінова трэба прымаць неабходныя меры, каб выправіць сітуацыю і ўдасканаліць дзейнасць навучальнай установы і ўкладу школьнага жыцця.

**- Каму б вы адвялі асаблівую ролю ў вырашэнні такой праблемы?**

- Важным кірункам у арганізацыі выхаваўчай работы павінна стаць пашырэнне рэальнага ўдзелу ў гэтым працэсе саміх дзяцей і падлеткаў, узмацненне ролі грамадскіх арганізацый і ўдасканаленне самакіравання. Зноў жа звяртаюся да сацыялагічных даследаванняў, якія сведчаць аб тым, што аўтарытэт афіцыйных лідэраў і грамадскіх аб'яднанняў у школе сёння даволі нізкі.

Значыць, мы не ствараем умоў для дзейнасці аб'яднанняў і сапраўдных лідэраў. Тут я адзначыла б дзве першачарговыя задачы. Гэта дапамога аб'яднальнаму працэсу дзвюх арганізацый: БПСМ і БСМ, якія ўжо заваявалі аўтарытэт сярод моладзі і змогуць прывесці ў адзіную сістэму ўзаемадзеянне з дзіцячымі грамадскімі арганізацыямі. Згадзіцеся, што такое адзінства сярод нашых дзяцей і падлеткаў дапаможа вырашыць многія пытанні выхаваўчай работы.

Акрамя таго, на новы ўзровень трэба ўзняць і самакіраванне. Па сённяшні дзень да яго ставяцца як да гульні. Але яно можа адыграць адметную ролю ў жыццядзейнасці школы. Галоўнае ў гэтай справе - падтрымаць памкненні нашай моладзі, даць магчымасць рэалізаваць сваю ініцыятыву, абудзіць актыўнасць. На маю думку, неабходна перайсці і да стварэння саветаў навучэнскай моладзі рэгіёнаў, якія б аб'ядналі падлеткаў са школ, тэхнікумаў, вучылішчаў. Такім чынам мы б далі магчымасць нашай моладзі ў цывілізаванай форме задаволіць сваю патрэбу ў актыўным грамадскім жыцці.

Я ўпэўнена, што гэта стане надзейнай падтрымкай нашым педагогам у выхаваўчым працэсе.

**- Якое месца ва ўдасканаленні ўкладу школьнага жыцця вы адводзіце фізкультурна-аздараўленчай рабоце?**

- Зусім нядаўна адбыліся слуханні справаздачы Сусветнага банка па праблемах Чарнобыля, дзе прымалі ўдзел вядучыя спецыялісты, якія займаюцца вывучэннем наступстваў катастрофы на ЧАЭС. У ходзе гэтай нарады была зроблена бадай што парадаксальная высновa. Эксперты лічаць, што недахоп фізічных практыкаванняў прыносіць намнога большы ўрон здароўю насельніцтва, і асабліва дзяцей, якія пражываюць на забруджанай тэрыторыі, чым сама радыяцыя. Вось вам і адказ на пытанне пра значнасць фізкультурна-аздараўленчай работы.

Але яна не павінна абмяжоўвацца толькі адным днём, адной суботай, як некаторыя мяркуюць. Па сцвярджэнню спецыялістаў, рухальная актыўнасць дзяцей павінна быць сістэмнай і ўваходзіць ва ўклад школьнага жыцця.

Такая сістэма захавана ў рабоце нашых дзіцячых садоў, але, на жаль, у школе гэты працэс не займеў працягу. Таму мы павінны яго наладзіць. Галоўным у арганізацыі фізкультурна-аздараўленчай работы павінна стаць фарміраванне матывацыі. Неабходна, каб фізкультура стала часткай паўсядзённага жыцця школьнікаў, а не была абмежавана толькі адзнакамі! Як вядома, гэта зніжае цікавасць да фізічнай культуры ў тых дзяцей, чые фізічныя магчымасці не дазваляюць паказаць высокія нарматыўныя вынікі.

Фізкультурна-аздараўленчая работа павінна быць масавай, прыносіць радасць і задавальненне ўсім дзецям. Але, безумоўна, неабходна аналізаваць і вынікі такіх мерапрыемстваў, каб сачыць за ўзроўнем фізічнай падрыхтаванасці дзяцей. Гэта можа адбывацца ў форме пазаўрочнай круглагадовай спартакіяды і іншых спартыўных спаборніцтваў, калі ўдзел і дасягненні ў іх не ўплываюць на адзнаку па фізкультуры, а выкарыстоўваюцца педагогамі як аснова маніторынгу фізічнага развіцця дзяцей. А на саміх занятках па фізкультуры неабходна працягваць ацэньванне ведаў здаровага ладу жыцця, што дазволіць надалей фарміраваць жыццёваважныя навыкі нашых школьнікаў.

**-Таццяна Мікалаеўна, звернемся да найбольш злабадзённага на сёння пытання. Як арганізаваць суботні дзень у школе пры пераходзе яе на пяцідзённы вучэбны тыдзень?**

- Хачу сказаць, што пасля шматлікіх сустрэч з настаўнікамі і кіраўнікамі навучальных устаноў мы прыйшлі да ўзаемапаразумення адносна так званай педагагічнай напаўняльнасці суботняга дня. Ужо зразумела, у выхавання няма выхадных, таму субота не павінна застацца без педагагічнага планавання. Для зручнасці і сістэмнасці ў рабоце такое планаванне павінна быць трохузроўневым. Што гэта азначае? Першы такі ўзровень - гэта агульнашкольны план жыццядзейнасці школы ў суботу на цэлы навучальны год. У гэтым плане могуць быць адлюстраваны ўсе агульнашкольныя мерапрыемствы, якія пройдуць у суботу на працягу года. Прадугледжваюцца круглагадовая спартакіяда, агульнашкольныя спартыўныя, працоўныя, забаўляльныя і іншыя мерапрыемствы. Гэта можа быць, напрыклад, і адзіная для ўсёй школы тэматычная субота: дзень здароўя, дзень бегуна, дзень прапагандыста. Але далейшая работа будзе арганізавана асобна на паралелях або па класах. У агульнашкольным плане могуць быць адлюстраваны таксама і мерапрыемствы міжшкольнага і міжраённага маштабу.

Наступным узроўнем планавання, які канкрэтызуе першы, з'яўляецца план для паралельных класаў. Напрыклад, у адну з субот да вучняў 9 класаў прыйдзе прадстаўнік праваахоўных органаў і будзе праводзіць тлумачальную работу па заканадаўству. У суботу другога месяца ён можа выступіць ужо перад вучнямі 10-х класаў.

Трэці ўзровень - гэта план канкрэтнага класнага кіраўніка. Для работы са сваім класам ён павінен канкрэтызаваць папярэднія два ўзроўні агульнашкольнага плана: вызначыць незадзейнічаны час суботы і выкарыстаць яго для сваіх вучняў. Папярэдне класны кіраўнік вядзе ўлік дзяцей, якія пойдуць у суботу ў пазашкольныя ўстановы, у музычныя школы, а таксама тых, хто захоча правесці свой вольны час з бацькамі. Карэктны, ненавязлівы кантроль класны кіраўнік усё ж павінен весці. Інакш гэта будзе прыводзіць да безнагляднасці.

Адзначу, што галоўным прынцыпам арганізацыі суботняга дня з'яўляецца ўдзел у гэтым працэсе педагогаў, вучняў і іх бацькоў.

Тады не ўзнікне праблемы, якая хвалюе сёння ўсе педагагічныя калектывы. Я маю на ўвазе заклапочанасць тым, што дзеці не захочуць ісці ў школу ў невучэбную суботу. Але, прабачце, гэта спрэчны тэзіс. Зацікавіць школьніка можна толькі захапляльным заняткам. Канешне, калі ўсім прапаноўваць шыць мяккую цацку, дык у школе застануцца толькі адзінкі. Яшчэ раз паўтару, што прапанаваныя заняткі і ўвогуле мерапрыемствы павінны адпавядаць інтарэсам саміх дзяцей. А значыць, трэба зацікавіць саміх школьнікаў, каб яны самі праявілі ініцыятыву, выказалі пажаданні, прапановы. Такім чынам сумесная творчасць, фантазія ў значнай меры нададуць разнастайнасць рабоце ў суботні дзень, павялічаць актыўнасць саміх дзяцей і падлеткаў.

Дадам і тое, што наша міністэрства падрыхтавала пісьмы іншым міністэрствам, ведамствам, дзе праінфармавала іх аб канцэпцыі арганізацыі суботняга дня і прапанавала супрацоўніцтва. Ужо знойдзена паразуменне і акрэслены шляхі ўзаемадзеяння.

Я ўпэўнена, што толькі агульнымі намаганнямі арганізацыя суботняга дня стане вырашальнай і будзе праведзена на высокім узроўні.



Самае галоўнае - не наладжваць гэты дзень на манер звычайнага вучэбнага дня, а ісці ад інтарэсаў саміх дзяцей і разам з імі.

**- Вядома, што некаторыя кіраўнікі рэгіёнаў імкнуцца зэканоміць сродкі за кошт скарачэння ў навучальных установах работнікаў выхаваўчай службы: псіхолагаў, сацыяльных педагогаў, педагогаў-арганізатараў. Гэта ім дазваляе Закон аб мясцовым самакіраванні. А ці не здарыцца так, што выхаваўчая сістэма нашай адукацыі застанецца без саміх выхавальнікаў?**

- Сапраўды. Як ні шкада, але такая тэндэнцыя назіраецца, і ў рэгіёнах - асабліва. Міністэрства адукацыі неаднаразова рэкамендавала мясцовым кіраўнікам беражліва ставіцца да кадраў выхаваўчай сістэмы, шукаць іншыя шляхі эканоміі фінансаў і спосабы вырашэння праблемы. На жаль, не ўсе чуюць наш голас. Але ёсць і другая праблема, якая не можа нас не хваляваць. Гэта вялікая цякучасць кадраў. Так, даследаванні ў Брэсцкай вобласці паказалі, што ў 2001 годзе сярод намеснікаў дырэктараў школ па выхаваўчай рабоце яна склала ажно 50 працэнтаў.

Гэтая лічба не толькі выклікае трывогу, а і пацвярджае той факт, што выхаваўчая работа - вельмі цяжкі хлеб. Але не толькі ў адной цяжкасці прычына. Справа ўскладняецца і тым, што многія работнікі не маюць належнай прафесійнай падрыхтоўкі і не спраўляюцца са сваімі абавязкамі. Канешне, Міністэрства адукацыі павінна дапамагчы гэтаму саставу кадраў метадычнымі рэкамендацыямі, нарматыўнымі актамі, але, на жаль, сістэмна арганізаваць павышэнне кваліфікацыі згаданых работнікаў сёння няпроста па прычыне той жа кадравай нестабільнасці.

Таму, мяркую, трэба павысіць маральнае і матэрыяльнае стымуляванне работы. У гэтым немалаважную ролю могуць адыграць розныя прафесійныя конкурсы "Лепшы класны кіраўнік", "Лепшы псіхолаг" і шэраг іншых, у час якіх будзе прадэманстравана важнасць гэтых прафесій.

Хачу прывесці яшчэ адзін прыклад, які тычыцца аздараўленчага летніка "Зубраня". Мяркуем у бліжэйшы час выйсці з ініцыятывай у Савет Міністраў аб наданні асаблівага статусу яго выхавальнікам. Гэта паспрыяе актывізацыі самога дзіцячага грамадскага руху і надасць новы імпульс выхаваўчай рабоце.

**- Выклікае хваляванне педагогаў і ўвядзенне новай сістэмы аплаты працы. Так, многія ўпэўнены, што ў школе не будзе класных кіраўнікоў?**

- Такія меркаванні ўзнікаюць па прычыне недасведчанасці нашых педагогаў. Сапраўды, з новага навучальнага года пачынае дзейнічаць новая сістэма аплаты працы педагагічных работнікаў, якая прадугледжвае зняцце надбаўкі за класнае кіраўніцтва. І ў той жа час новая пастанова дае магчымасць тарыфікаваць гадзіны за арганізацыю выхаваўчай работы. Гэта азначае, што ў матэрыяльным плане класны кіраўнік нічога не губляе. Пры гэтым захаваецца і такая педагагічная функцыя як класны кіраўнік. З'явяцца і іншыя варыянты выхаваўчай работы. Так, агульнае класнае кіраўніцтва можна захоўваць за адным настаўнікам, а правядзеннем далейшых выхаваўчых мерапрыемстваў тыпу арганізацыі вольнага часу школьнікаў, культурна-масавай работы, у тым ліку і з азначаным класам, можа займацца і другі настаўнік.

За канкрэтным класным кіраўніком будзе замацавана індывідуальная дыягнастычная работа ў класе, арганізацыя класных гадзін, бацькоўскіх сходаў. Так што роля класнага кіраўніка будзе, як і раней, актуальнай у выхаваўчым працэсе.

**- Зусім нядаўна ў Жэневе ў Камітэце па правах дзіцяці Арганізацыі Аб'яднаных Нацый адбылося пасяджэнне па абмеркаванні выканання канцэпцыі па правах дзіцяці ў нашай рэспубліцы. Як рэалізуецца гэты дакумент на практыцы?**

- Хачу адзначыць, што матэрыялы, якія былі прадстаўлены ў гэты Камітэт, яскрава паказваюць, што за апошнія гады на заканадаўчым і практычным узроўні праведзена шматгранная мэтанакіраваная работа па абароне і рэалізацыі правоў нашых дзяцей. Яна носіць сістэмны характар, дзе задзейнічаны Рэспубліканская Нацыянальная камісія па правах дзіцяці, органы аховы дзяцінства ў структуры ўпраўленняў адукацыі, сацыяльныя педагогі. Значнае месца ў механізме забеспячэння абароны правоў дзяцей адыгрываюць сацыяльна-педагагічныя цэнтры і дзіцячыя сацыяльныя прытулкі, якія ўвайшлі ў структуру сістэмы адукацыі зусім нядаўна.

**- Раскажыце, калі ласка, больш падрабязна аб гэтых новых утварэннях.**

- Сацыяльна-педагагічныя цэнтры пачалі ствварацца ў рэспубліцы толькі некалькі гадоў назад. Цяпер іх налічваецца больш як дваццаць і дзейнічаюць яны, у асноўным, у абласцях і раённых цэнтрах.

Сацыяльна-педагагічныя цэнтры - гэта спецыяльныя ўстановы для акавання сацыяльна-педагагічнай дапамогі праблемным сем'ям і дзецям, якія апынуліся ў цяжкіх, экстрэмальных жыццёвых сітуацыях. Цэнтры сістэмна арганізоўваюць прафілактычную работу, праводзяць дыягностыку і трэнінгі па праблемах, у тым ліку і ва ўстановах. Характэрна і тое, што штаты цэнтраў укамплектаваны прафесійнымі спецыялістамі з ліку псіхолагаў, сацыяльных педагогаў.

У самой структуры сацыяльна-педагагічных цэнтраў, альбо асобна, могуць дзейнічаць і дзіцячыя сацыяльныя прытулкі. Іх асноўная функцыя - медыцынская, псіхалагічная, педагагічная рэабілітацыя дзяцей, якія часова змешчаны ў такім прытулку па рашэнні праваахоўных органаў або органаў аховы дзяцінства. Дарэчы, дзеці могуць звярнуцца ў прытулак і самі, калі ў сям'і - складаная сітуацыя.

Калі ў рэгіёне няма магчымасці арганізаваць такі прытулак, можна стварыць сутачныя сацыяльныя гасцініцы пры пазашкольнай установе альбо пры бальніцы. Такі вопыт работы назапашаны, напрыклад, у Магілёўскай вобласці.

Важна, каб аб наяўнасці сацыяльна-педагагічных цэнтраў, дзіцячых сацыяльных прытулкаў насельніцтва рэгіёнаў, асабліва дзеці і падлеткі, былі добра праінфармаваныя і пры ўзнікненні патрэбы выкарыстоўвалі іх дапамогу.

Дадам, што Міністэрства адукацыі заключыла пагадненне са Стакгольмскім універсітэтам аб падрыхтоўцы спецыялістаў сацыяльна-педагагічнай службы.

Шведскі бок у апошняй сустрэчы пацвердзіў жаданне матэрыяльна дапамагаць некаторым базавым сацыяльна-педагагічным цэнтрам.

Такія базавыя сацыяльна-педагагічныя ўстановы будуць вылучаны ў кожным рэгіёне і зоймуцца напрацоўкай мадэлі сацыяльна-педагагічнай службы.

**- Сёння трывала ўваходзіць у наша жыццё і такая з'ява, як прыёмная сям'я. Ці лічыце вы яе найбольш мэтазгоднай формай уладкавання дзяцей-сірот?**

- Згадзіцеся, што ўтрыманне сірот ва ўстановах інтэрнацкага тыпу мае шмат недахопаў, і ў тым ліку нявыгадна ў фінансавым плане для дзяржавы. Іншая справа - прыёмная сям'я, якая прадугледжвае ўзаемную зацікаўленасць. Самому дзіцяці намнога цяплей і ўтульней будзе жыць у сям'і, няхай нават у прыёмнай. А для прыёмных бацькоў гэта добрая магчымасць рэалізаваць сябе як педагогаў і атрымоўваць зарплату. Я думаю, што гэта аптымальнае выйсце для тых людзей, якія страцілі работу.

Дарэчы, прыёмнымі бацькамі могуць быць педагогі і людзі без педагагічнай адукацыі. У аддзеле адукацыі, дзе наймаюць на работу сям'ю бацькоў, існуе цэлая працэдура адбору. Пры гэтым вызначаецца сума на ўтрыманне дзіцяці, а таксама месячны заробак.

Такая сям'я можа падпісаць адпаведную дамоўленасць на выхаванне аднаго альбо некалькіх дзяцей-сірот, інфармацыю аб якіх з банка дадзеных прадастаўляюць органы па ахове дзяцінства.

Хачу сказаць, што прыёмныя сем'і даволі хутка прыжыліся ў нашай рэспубліцы. Сёння іх налічваецца больш чатырохсот, дзе выхоўваецца 500 сірот. І гэтым дзеткам там утульна. Хачу пажадаць гэтай утульнасці ў самым шырокім сэнсе слова - сям'і кожнага навучэнца, кожнага педагога, кожнай навучальнай установе. І каб яна заўжды спрыяла нашай прафесійнай працы - выхаванню.

Гутарку вяла
Ала КЛЮЙКО.
Фота Юрыя БОНДАРАВА.

# Зацверджаны склад дзяржаўнай камісіі па падрыхтоўцы падручнікаў

## Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка Распараджэннем ад 3 чэрвеня зацвердзіў склад дзяржаўнай камісіі па падрыхтоўцы падручнікаў у гуманітарна-грамадазнаўчай сферы

**У бюро камісіі ўвайшлі:**

Брыгадзін Пётр Іванавіч - Міністр адукацыі, доктар гістарычных навук, прафесар (старшыня камісіі)

Жук Аляксандр Іванавіч - першы намеснік Міністра адукацыі, доктар педагагічных навук, прафесар (намеснік старшыні камісіі)

Ганушчанка Надзея Мікалаеўна - кіраўнік сектара выкладання грамадазнаўчых дысцыплін галоўнага ўпраўлення вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі Міністэрства адукацыі, кандыдат гістарычных навук (адказны сакратар)

Андрэеў Анатоль Мікалаевіч - прафесар кафедры тэорыі літаратуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта, доктар філалагічных навук

Падлужны Аляксандр Іосіфавіч - дырэктар дзяржаўнай навуковай установы "Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі", акадэмік, доктар філалагічных навук

Рашэтнікаў Сяргей Васільевіч - дырэктар Інстытута дзяржаўнага кіравання Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, доктар палітычных навук, прафесар

Сташкевіч Мікалай Стафанавіч - выконваючы абавязкі дырэктара дзяржаўнай навуковай установы "Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі", доктар гістарычных навук, прафесар

**У секцыю гістарычных дысцыплін уключаны:**

Сташкевіч Мікалай Стафанавіч - выконваючы абавязкі дырэктара дзяржаўнай навуковай установы "Інстытут гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі", доктар гістарычных навук, прафесар

Гламбоцкі Пётр Міхайлавіч - настаўнік гісторыі гімназіі №56 г. Мінска

Дзмітрачкоў Пётр Фролавіч - дэкан гістарычнага факультэта ўстановы адукацыі "Магілёўскі дзяржаўны універсітэт імя А.А.Куляшова", кандыдат гістарычных навук, дацэнт

Кошалеў Уладзімір Сяргеевіч - загадчык кафедры гісторыі новага і найноўшага часу Беларускага дзяржаўнага універсітэта, доктар гістарычных навук, прафесар

Крэнь Іван Платонавіч - загадчык кафедры гісторыі Беларусі ўстановы адукацыі "Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы", кандыдат гістарычных навук, прафесар

Трашчанок Якаў Іванавіч - дацэнт кафедры ўсходнеславянскай і расійскай гісторыі ўстановы адукацыі "Магілёўскі дзяржаўны універсітэт імя А.А.Куляшова"

Фядосік Віктар Анатольевіч - загадчык кафедры гісторыі старажытнага свету Беларускага дзяржаўнага універсітэта, доктар гістарычных навук, прафесар

Часноўскі Мечыслаў Эдвардавіч - прафесар кафедры міжнародных адносін Беларускага дзяржаўнага універсітэта, доктар гістарычных навук

**Секцыю сацыяльных дысцыплін прадстаўляюць:**

Рашэтнікаў Сяргей Васільевіч - дырэктар Інстытута дзяржаўнага кіравання Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, доктар палітычных навук, прафесар

Багамаз Сяргей Леанідавіч - загадчык кафедры псіхалогіі ўстановы адукацыі "Віцебскі дзяржаўны універсітэт імя П.М.Машэрава", кандыдат псіхалагічных навук, дацэнт

Балашэнка Сяргей Аляксандравіч - дэкан юрыдычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, доктар юрыдычных навук, дацэнт

Івуць Раман Баляслававіч - загадчык кафедры эканомікі і кіравання на транспарце Беларускага нацыянальнага тэхнічнага універсітэта, доктар эканамічных навук, прафесар

Кухарчык Міхаіл Васільевіч - намеснік дэкана геаграфічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта

Смолік Аляксандр Іванавіч - прарэктар па навучальнай рабоце ўстановы адукацыі "Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры", доктар культуралагічных навук, прафесар

Супрановіч Ірына Юльянаўна - намеснік дырэктара па навучальнай рабоце сярэдняй агульнаадукацыйнай школы №9 г.Жодзіна Мінскай вобласці

Яскевіч Ядвіга Станіславаўна - прарэктар навучальна-адукацыйнай установы Беларускага дзяржаўнага універсітэта "Рэспубліканскі інстытут вышэйшай школы", доктар філасофскіх навук, прафесар

**У секцыю філалагічных дысцыплін увайшлі:**

Андрэеў Анатоль Мікалаевіч - прафесар кафедры тэорыі літаратуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта, доктар філалагічных навук

Галяновіч Ганна Іванаўна - настаўнік рускай мовы і літаратуры сярэдняй агульнаадукацыйнай школы № 2 г.Стоўбцы Мінскай вобласці

Градзецкая Алена Міхайлаўна - настаўнік беларускай мовы і літаратуры сярэдняй агульнаадукацыйнай школы №179 з харэаграфічным ухілам г.Мінска

Лаўшук Сцяпан Сцяпанавіч - намеснік дырэктара па навуковай рабоце дзяржаўнай навуковай установы "Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі", доктар філалагічных навук, прафесар

Мушынскі Міхаіл Іосіфавіч - загадчык аддзела гісторыі беларускай літаратуры дзяржаўнай навуковай установы "Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі", доктар філалагічных навук, прафесар

Фёдараў Дзмітрый Васільевіч - дацэнт кафедры рускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага універсітэта, кандыдат філалагічных навук

Шаўлоўская Марыя Фёдараўна - загадчык кафедры беларускай літаратуры ўстановы адукацыі "Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя Максіма Танка", кандыдат філалагічных навук, дацэнт

Прэс-служба
Прэзідэнта
Рэспублікі Беларусь.

# Дзеці адпачывалі толькі па спісах...

***Пачаўся новы аздараўленчы сезон. Многія бацькі зараз заклапочаны тым, дзе і як арганізаваць адпачынак дзіцяці. На жаль, пуцёўку ў аздараўленчыя летнікі пашанцуе набыць не ўсім. Але ці заўсёды рацыянальна выкарыстоўваюцца нават тыя сродкі, якія выдзяляе дзяржава для адпачынку школьнікаў? У маі абласны Камітэт дзяржаўнага кантролю скончыў праверку арганізацыі аздараўлення дзяцей летам мінулага года. Што ж паказалі вынікі праверкі?***

Арганізацыяй аздараўлення дзяцей у горадзе Маладзечна сярод іншых структур займаўся і гарадскі камітэт БПСМ. Адпачынак быў арганізаваны ў аздараўленчым летніку в. Занарач Мядзельскага раёна.

Па-першае, былі выяўлены парушэнні ў падборы кадраў для аздараўленчага летніка. Працаваць з дзецьмі паехалі выхавальнікі і важатыя, чые кандыдатуры не былі ўзгоднены з аддзелам адукацыі і аддзелам аховы здароўя.

Па-другое, у групе з 40 чалавек у час адной са змен былі дзеці ад трох да семнаццаці гадоў, прычым не ўсе з іх пражывалі або вучыліся ў Маладзечна. Таксама высветлілася, што са 160 дзяцей, якія былі ўключаны ў спісы і прайшлі аздараўленне на працягу чатырох змен, 11 чалавек увогуле нікуды не ездзілі. У выніку чаго камітэтам БПСМ было неабгрунтавана атрымана датацый са сродкаў дзяржаўнага сацыяльнага страхавання на агульную суму 770 тысяч рублёў - з разліку 70 тысяч на кожнае дзіця. У другую змену ў ліку 40 дзяцей былі сын начальніка летніка С.С.Ракіта - Г.Ракіта (1998 года нараджэння) і дачка выхавальніка А.А.Багаўца - А.Багавец (1998 года нараджэння), а таксама іх жонкі. Як гаворыцца, без каментарыяў...

Ад бацькоўскай платы за знаходжанне ў летніку ў I-II змены было вызвалена 19 дзяцей. Але праверкай выяўлена, што з ліку гэтых дзяцей 7 чалавек не выязджалі і былі заменены іншымі дзецьмі, дакументы на вызваленне якіх ад уплаты бацькоўскіх узносаў адсутнічаюць.

Акрамя таго, на бюро ГК БПСМ ад 13 ліпеня 2001 г. было вырашана, што ў чацвёртую змену дзеці будуць аздараўляцца бясплатна. Тым не менш бацькі ў час праверкі растлумачылі, што па ведамасці з іх узялі па 9-12 тысяч рублёў.

За кошт сродкаў, выдзеленых на затраты на ўтрыманне ў летніку, быў набыты тэлевізар "Віцязь" коштам 194 тысячы рублёў, што з'яўляецца грубым парушэннем інструкцыі Міністэрства фінансаў.

Фінансавым аддзелам Маладзечанскага гарвыканкама не праводзіліся кантрольныя мерапрыемствы за дзейнасцю аздараўленчага летніка, хаця гэта было прадугледжана адпаведным рашэннем гарвыканкама.

Па выніках праверкі ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам 770 тысяч рублёў, незаконна атрыманыя Маладзечанскім БПСМ, прад'яўлены да вяртання ў даход фонду сацыяльнай абароны насельніцтва.

Матэрыялы праверкі перададзены ў пракуратуру для іх прававой ацэнкі.

Аздараўленчая кампанія 2002 года толькі пачалася. Але азнаёміцца з гэтай інфармацыяй, думаю, будзе вельмі цікава тым, хто марыць аздаравіць за дзяржаўныя сродкі свае далёка не бедныя сем'і. Нягледзячы на тое, што сёння ёсць рэальныя прэтэндэнты на падтрымку дзяржавы. Толькі вось па нейкіх прычынах замест цудоўнага возера Нарач яны вымушаны праводзіць спякотнае лета ў горадзе.

**Ала ШАЎЦОВА.**

